### Трэба забіць беларускія матывы ў беларускай літэратуры.

„Зьвязда“ з 23-га лістапада г. г. у артыкуле „Камсамол у барацьбе за пралетарскую літэратуру“ сцьвярджае, што беларускія пісьменьнікі яшчэ надзвычай мала аддаюць увагі камсамольскай тэматыцы. „Вобразу камсамольца-энтузіяста ў нашай(!) беларускай літэратуры яшчэ няма“—бядуе „Зьвязда“ і піша далей, што лінія Белар. Асоцыяцыі Пролет. Пісьменьнікаў і камсамолу адна і тая самая, а іменна няўхільная барацьба за генэральную лінію компартыі ў літэратуры, карацей—барацьба супраць беларускіх матываў і беларускага духу ў бел. літэратуры.

### Літэратурная выстаўка.

Як падае „Сав. Беларусь“ з дня 20-га лістапада г. г., 6-га лістапада ў Менску ў Доме Пісьменьніка адкрыта першая беларуская літэратурная выстаўка ў Б. С. С. Р., зарганізаваная Менскай Асоцыяцыяй.

## Нямецкія фашысты рыхтуюцца да ўлады...

Пасьля няўдалага замаху, весткі і дакумэнты аб якім Гітлер абвясьціў сфальшаванымі, гітлераўцы выяўляюць асаблівую дзеяльнасьць, каб паказаць, што яны пастанавілі няўхільна дый цалком законнымі шляхамі здабыць уладу. На нарадзе правадыроў гэтых „нацыянал-соцыялістаў“, ці нямецкіх фашыстаў, у Мюнхене пастаноўлена першым чынам падрыхтаваць апінію вялікіх дзяржаваў у прыхільным напрамку, дзеля чаго галоўныя кіраўнікі партыі павінны паехаць па ўсіх сталіцах, каб увайсьці ў асабісты кантакт з эўрапэйскімі дыплёматамі. Гітлер мае ехаць у Рым на спатканьне з Мусоліні, рэдактар галоўнага органу партыі ўжо сядзіць у Лёндане і г. д.

5 сьнежня Гітлер запрасіў да сябе замежных карэспандэнтаў у Бэрліне (апрача францускіх і польскіх), якім заявіў, што партыя яго пастанавіла стварыць цэнтра-правую коаліцыю, узяўшы на сябе кіраўнічую ролю. А тыя 15 мільёнаў (?) прыхільнікаў, якіх мае партыя, робяць гэтую пастанову зусім рэальнай. Гітлер заявіў, што да вясны ўся падрыхтоўка будзе скончана, а вясной ён няўхільна стане на чале ўраду. Гітлераўцы,—казаў ён, — адзіная партыя ў Нямеччыне, якая шчыра і плянова вядзе барацьбу з камуністамі. Ліквідацыя камунізму ў Нямеччыне—першы варунак яе адраджэньня, і гэта могуць зрабіць толькі яны, гітлераўцы. Канец камунізму ў Нямеччыне, гэта — пачатак канца камунізму і ў-ва ўсім сьвеце. Таксама шчыра і адкрыта толькі адны гітлераўцы ставяць і справу адшкадаваньняў, ад якой галоўным чынам залежыць сусьветны крызіс. І першым крокам яго, гітлеравага, ураду будзе дэкрэт аб адмове ад сплаты адшкадаваньняў. Толькі ўрад яго, Гітлера, знойдзе ў сябе сілу і адвагу рашуча патрэбаваць і разбраеньня Францыі, скасаваньня яе гэгемоніі ў Эўропе, ад якой палітычна гарыць і гаспадарча гіне Эўропа. Гітлер заявіў, што яго партыя, гэта—уся маладая Нямеччына, тыя малодшыя пакаленьні, якія ня прымалі ўчасьця ў вайне, не адказываюць за яе маральна, дык і ня хочуць нясьці за вайну і матэрыяльнай дый ніякай адказнасьці... Не прызнае гэтая маладая Нямеччына наагул і тых накіненых ёй трактатаў, якіх немцы ня маюць магчымасьці выканаць. Спрытна падчыркнуў Гітлер англійскім і амэрыканскім журналістам, што яго партыя даўгі Амэрыцы і Англіі ставіць на першым пляне, а якраз таму адкідае адшкадаваньні, каб Нямеччына была ў стане цалком і безадкладна сплаціць гэтыя даўгі...

Другі правадыр гітлераўцаў, пасол Штрассэр, у прамове сваей у Штутгарце заявіў, што яго партыя можа дайсьці да ўлады ў часе найбліжэйшага, няўхільнага ўжо ўрадавага крызісу, як толькі ў лютым зьбярэцца парлямант. — Месца Брюнінга можа заняць толькі Гітлер. Але гітлераўцы возьмуць уладу толькі самі—без усялякай коаліцыі, дый толькі тады, калі войска і паліцыя будуць цалком у іх руках. Бо-ж „нашаму ўраду, казаў ён, прыдзецца рабіць шмат рэчаў непапулярных (!) сярод шырокіх масаў насяленьня дый заграніцай... Калі-ж-бы нам не ўдалося выканаць нашую праграму, тады пасьля нас прыдзе бальшавізм. А таму—мы, ведаючы, што тады мы ўсе папалі бы на шыбеніцы, змушаны будзем самі вешаць, каго трэба“... „Мы зробім гэта, калі б навет мелі плаваць у крыві,—дзеля дабра Нямеччыны... Галоўнай мэтай нашай замежнай палітыкі ёсьць безаглядная барацьба ці нават вайна проці Францыі. Якраз дзеля гэтай мэты мы й імкнемося да ўзяцьця ўлады ў Нямеччыне“, — закончыў пасол Штрассэр сваю прамову.

## Аляксандар Бабяньскі.

10 сьнежня памер у Варшаве ў веку 78 гадоў ведамы барацьбіт за волю ў былай царскай Расеі і за вызваленьне Польшчы — адвакат Аляксандар Бабяньскі.

Нябожчык быў шчырым прыхільнікам беларускага адраджэнска-вызвольнага руху і выступаў, як абаронца беларусаў, па палітычных працэсах (беластоцкім „45-ёх“, віленскім „Б. С.-Р. Грамады“ і інш.).

Пару месяцаў назад, падчас сваей апошняй бытнасьці ў Вільні, Нябожчык адведаў Беларускі Музэй і вёў гутарку з беларускімі дзеячамі аб неабходнасьці для самага-ж польскага грамадзянства напружыць свае сілы дзеля таго, каб дабіцца для беларусаў пад Польшчай належных ім правоў.

Чэсьць Яго памяці!

---

Але даволі гаварыць аб „Бел. Крыніцы“,—глянем на цэлы рад аднаднёвак, якімі п. Акінчыц, п. С. Сарока і ў канцы п. Знамяроўскі прабавалі „ашчасьлівіць“ Беларускі Народ. Гаварыць аб неэтычнасьці гэтых шматаў, гэта ламацца у адчыненыя дзьверы.

Яны ў цэласьці і з усіх бакоў узятыя выклікаюць на зьмену і сьмех і гідкасьць, насоўваючы пытаньне аб псыхічным стане іх рэдактароў. Яшчэ, між іншым, побач з аднаднёўкамі трэба паставіць „элляборат“ п. С. Сарокі „Сьветач Беларусі“, асабліва апошні № 3 (6), тыповы ўзор гістэрычнасьці і безканечнай тупасьці аўтараў, ці хутчэй аўтара; у гэтай „часапісі“ бруд аж ліецца праз край.

Запраўды стыдна часам робіцца за падобныя праявы ў жыцьці беларускай прэсы, якая 25 год таму назад так годна і чыста распачала сваё існаваньне.

Часамі хочацца ўмовіць сабе, што гэтыя выступленьні маюць на мэце сьмяшыць людзей у нашых цяжкіх часох, і мімаволі задаеш сабе пытаньне: — мо гэта гумар?

Але дзе там. Усе гэтыя „творы“ прэтэндуюць на солідвасьць і на павагу, усе яны маюць нібы служыць беларускім масам за духовую страву.

Робіцца нейк сумна: да чаго аднак даходзяць людзі,—як нізка можна часам упасьці!

Інтэлектуальнае банкруцтва б'е ў вочы з пералічаных „дубіяных“ гастроляў у беларускай прэсе ўсялякіх паноў Я-уляў, J. P., Сарок, Акінчыцаў і Знамяроўскіх.

Чытаючы, часамі хочацца сьмяяцца, але глыбей задумаўшыся робіцца жаль, што такія тыпы компромітуюць добрае імя беларускай прэсы.

# Палітычнае жыцьцё.

## Польшча.

### Узнаўленьне працы Сойму.

Пасьля 30-дзённага перарыву, загаданага дэкрэтам Прэзыдэнта, Сойм 10 сьнежня ўзнавіў працу. На парадку дня першага паседжаньня Сойму—шмат справаў. Сярод розных законапраектаў — найбольш цікавячы шырокія масы насяленьня, апрацаваны ўрадам, праект новага закону аб сабраньнях.

Права вольных сабраньняў належыць да асноўных правоў грамадзяніна ў рэспубліцы, да так-званых „констытуцыйных гарантыяў“ яго волі і роўнасьці ў дзяржаве. Нажаль аднак-жа праект новага закону носіць залішне „паліцэйскі“ характар. §§ 9 і 10 даюць уладзе права забараняць усялякія сабраньні, калі яны—„з пагляду ўлады (зданем улады) пагражалі б бясьпечнасьці, спакою ці публічнаму нарадку“—бяз розьніцы, ці сабраньне мае быць у зачыненым памяшчэньні, ці пад голым небам. Асобна, праўда, законапраект ставіць зьезды ды сабраньні перадвыбарныя, але і яны ўцісьнены ў залішне вузкія рамкі адміністрацыйнай самаволі.

### Зьбліжэньне паміж Польшчай і Югаславіяй.

У пачатку сьнежня ў Варшаву прыехаў міністар замежных спраў Югаслав'і п. Марынковіч. У выніку гутарак з польскім міністрам п. Залескім і рожных урачыстасьцяў і банкетаў, дыплёматычныя кіраўнікі абедзьвюх дзяржаваў, сцьвярдзіўшы поўную згоднасьць пагляд аў на галоўныя справы сучаснай эўрапэйскай палітыкі дый поўную адсутнасьць усялякіх спрэчных справаў паміж Польшчай і Югаславіяй, падпісалі спэцыяльную ўмову аб цясьнейшым супрацоўніцтве ў галіне культурных спраў. Апроч таго, пастанавілі пашырыць гаспадарчыя зносіны паміж абыдвума краямі, а ў галіне палітычных адносінаў—дакладна паведамляць сабе ўзаемна аб сваіх паглядах, асабліва ж датычна справаў меншасьцёвае палітыкі, разбраеньня і ўтрыманьня мірных трактатаў. Так кажа П. А. Т.

Спатканьне міністраў Польшчы і Югаславіі мела мэтай пераважна падрыхтаваць супрацоўніцтва на маючай (?) распачацца ў пачатку новага году „разбраенчай“ конфэрэнцыі. Нас, беларусоў, найбольш цікавіць у гэтым спатканьні міністраў іх паразуменьне ў справе меншасьцяў.

Меншасцёвая палітыка Югаславіі — адносна да харватаў, славенцаў, а асабліва-ж да няшчасных македонцаў, адзначаецца чыста фашыстаўскай жорсткасьцяй; у Лізе Нацыяў роля Югаславіі ў справах меншасьцёвых заўсёды — найбольш рэакцыйная... Таму „зьбліжэньне“ паміж ёй і Польшчай у гэтай галіне не варожыць нам, меншасьцям у Польшчы, нічога добрага.

## Заграніцай.

### Прэзыдэнцкія выбары ў Літве.

У Літве адбылася падрыхтоўка новых прэзыдэнцкіх выбараў. Выбар новага прэзыдэнта мусіла зрабіць сабраньне спэцыяльных выбаршчыкаў, якія і выбіраліся — пад шчыльным наглядам паліцыі. Зразумела, што спэцыяльна выданы старым прэзыдэнтам Смэтонай выбарны закон напісаны так, што даў ураду поўную магчымасьць загарантаваць выбар таго-ж самага Смэтоны на далейшае 7-лецьце, што і сталася. Дый урадавая прэса зусім нават ня крылася з гэтым!..

### Маскоўскі Комінтэрн распускае англійскую камун. партыю.

Маскоўскі Комінтэрн пастанавіў распусьціць англійскую ком. партыю, спыніўшы ўсялякую „падмогу“ англійскім камуністам. Такая кара накладзена на „англійскіх таварышоў“ за тое, што яны выказалі сябе няздольнымі выкарыстаць цяжкі палітычны і фінансава-гаспадарчы крызіс у Англіі дзеля мэтаў соцыяльнае рэвалюцыі, а нават ня здолелі зрабіць ніводнага „паважнага выступленьня пралетарыяту“. І гэта — ня гледзячы на тое, што Масква, як даведалася нямецкая прэса, кінула англійскім камуністам на апошнія выбары паўтара мільёна рублёў золатам. „Англійскія таварышы“, кажа пастанова Комінтэрну, „аказаліся не на вышыні ўскладзенае на іх задачы“...

Нямецкая прэса даводзіць, быццам „англійскія таварышы“ хочуць дабіцца павароту ласкі Масквы,—дык трэба спадзявацца ў Англіі хвалі „выступленьняў пралетарыяту“.

### Канец „конфэрэнцыі круглага стала“ і пачатак тэрорыстычнай акцыі ў Індыі

31 сьнежня зачынілася ў Лёндане так-званая „конфэрэнцыя круглага стала“, якая мела апрацаваць падставы паразуменьня паміж Англіяй і дэлегатамі Індыі і — новай констытуцыі для гэтай вялізарнай краіны, якая яўна імкнецца да дзяржаўнай самастойнасьці. Конфэрэнцыя скончылася няўдачай. У апошняй сваей прамове ведамы Ганді, правадыр індускіх незалежнікаў, заявіў, што „шляхі індусаў і англійцаў іноў мусяць разыйсьціся“. „У выніку няўдачы паразуменьня з найбольш спакойнымі і ўмяркаванымі кіраўнікамі вызваленчага руху,—сказаў ён пасьля журналістам, — Англія спаткае ў Індыі, нажаль, няўхільнае ўзнаўленьне тэрорыстычнай акцыі, якую так ненавідзіць ён, Ганді. Англійцы пэўне ж будуць крывава душыць тэрор тэрорам. Але незалежніцкі рух не задушыцца ўсімі гэтымі мерамі. Тэрор, тасаваны крайнімі ідэалістамі руху, выклікаецца хворым палажэньнем рэчаў, дык спынены будзе толькі тады, калі здабыта будзе Індыяй воля. У канцы Ганді шчыра дзякаваў Мак-Дональду за добрую волю і ўмелае кіраўніцтва конфэрэнцыяй.

Мак-Дональд, зачыняючы конфэрэнцыю, заявіў, што ён цьвёрда верыць у магчымасьць паразуменьня і будзе далей працаваць над зьдзейсьненьнем свайго пляну. Мак-Дональд толькі забыўся дадаць, што запраўднае ўлады ён ужо ня мае, што правал конфэрэнцыі ў значнай меры — рэзультат падыходу да ўлады консэрватараў— з іх праграмай жорсткага імпэрыялізму.

### Дэманстрацыйнае галасаваньне.

Прускі сойм (ляндтаг) большасьцю 184 галасоў проці 92 прыняў рэзолюцыю, якая трэбуе спыненьня сплаты ваенных адшкадаваньняў. Галасаваньне было тайнае, але ведама, што за рэзолюцыю галасавалі правыя і цэнтраўцы, соцыялдэмократы ўстрымаліся, а комуністы зусім ня прымалі ўчасьця ў галасаваньні.

### Спроба манархічнага перавароту ў Вэнгрыі.

Вэнгерскім манархістам-фашыстам мала, відаць, яшчэ таго „ладу“ і тэй дыктатуры, якія заведзены ў Вэнгрыі на карысьць магнатаў-аграрыяў—коштам усяго працоўнага насяленьня яе. Дык яны наладзілі змову, якая мела — шляхам ваеннага перавароту і захвату ўлады—адбудаваць манархію—з Габсбургам на чале.

Як ведама, самі вэнгерскія магнаты, з сваім правадыром, дыктатарам Хорті на чале, зьяўляюцца манархістамі дый усьцяж „падрыхтоўваюць“ адбудову манархіі. Але неяк не сьпяшаюцца, асабліва-ж сам Хорті, які ня выказывае лішняга жаданьня адмовіцца ад становішча вярхоўнага валадара Вэнгрыі—на карысьць караля. Да таго-ж і звонку Францыя з сваімі васаламі—малай антантай—працівіцца адбудове Габсбургскай дынастыі, з чым змушаны лічыцца ўрад. З усіх гэтых прычынаў адбудова манархіі ўсьцяж адкладаецца.

